Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 21 Нядзеля, 7-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Аб сялянскіх настроях.

Часта прыходзіцца чуць сярод беларускае інтэлігэнцыі размовы аб настроях, якія пануюць сярод роднага сялянства.

I цікава, што яшчэ часьцей паўстаюць падобныя размовы, як рэзультат суб'ектыўнага кірунку думак таго ці іншага нашага інтэлігэнта. У гутарках таксама вельмі часта адбіваецца суб'ектывізм, бо ўсяе рознароднасьці сялянскіх настрояў пэўна што нікому ніколі ахапіць ня ўдасца.

Трэба памятаць, што псыхіка нашага селяніна заўсёды землябробская, ці кажучы папросту — гаспадарская.

I тое, што з пункту гледжаньня інтарэсаў земляроба робіцца дзе-нібудзь у духу гэтых інтарэсаў, заўсёды саўсім натуральна найболей цікавіць нашага селяніна.

Вякі нацыянальнай няволі вырабілі ў нашым народзе пэўную асьцярожнасьць, якую селянін заўсёды мае ў гутарцы з кім-нібудзь аб болей шырокай палітыцы. Аднак, ён заўсёды давяраецца таму, каго добра пазнаў і робіцца шмат ахвятнейшым на словы, гаворачы з тым, з кім не баіцца быць шчырым.

З тых расказаў, якія даходзяць да нас ад людзей бязумоўна блізкіх да свайго роднага народу, — бо асеўшых на зямлі, розных быўшых асобаў інтэлігэнцкіх прафэсіяў—можна ўсё-ж такі зрабіць пэўныя агулы настрояў беларускае вёскі.

Перш за ўсё тоіцца ў народзе як-бы нейкі *аграрны* радыкалізм. Зямельныя адносіны ў нашым краі надта рознага характару. Мы знаходзім селяніна (а найчасьцей шляхціца), якога так-сяк можна назваць навет *заможным*, спаткаем далей малазямельніка, арэндатара чужое зямлі ці чыншавіка і дворна-службовы слой — безьзямельнікі.

Ужо гэткае соцыяльнае расслаеньне само сабою ўносіць пэўную рознароднасьць у сялянскія рады ў сэнсе *зямельных жаданьняў*.

I з гэтай прычыны аб пагалоўным нейкім радыкалізьме сярод беларускіх сялян-земляробаў гаварыць ня прыходзіцца.

Агульным для ўсяго нашага сялянства зьяўляецца толькі той бок народных жаданьняў і настрояў, дзе можа быць гутарка аб тых ці іншых *нацыянальных* крыўдах.

Таксама агульным зьяўляецца жаданьне шырокага самаўрадаваньня, дасюль яшчэ ў нас не праведзенага ў жыцьцё, хоць даўно ўжо абварункованага дзяржаўнаю конституцыяй.

Усялякія мерапрыемствы ўладаў у кірунку адкрытага прызнаваньня прагоў беларусаў „звацца людзьмі" спатыкаюцца з радасьцю. Гэткай радасьцю, хаця й няпоўнаю, ад'значыліся апошнія летнія месяцы, даўшыя новыя законы аб мовах меншасьцяў.

Недаўменьне выклікаюць запягненыя гутаркі аб зьменах у адміністрацыі і зацікаўлена ўсе чакаюць, як будзе далей?

Што датычыць жаданьня мець свой уласны самаўрад, дык тут прымешваецца яшчэ адно агульнае народнае жаданьне: урэгуляваць, нарэшце, аплачваньне падаткаў так, каб опэрацыя гэта адчувалася народам лягчэй. Патрэба большае падатковае сыстэмнасьці адчуваецца ўсімі разам і кожным асобна.

На чым-жа будуецца перш за ўсё *аграрны радыкалізм* беларускага селяніна, які дэмагогічна раздуваецца кожным тым, хто не палянуецца толькі выкарыстаць беларускага селяніна дзеля сваіх палітычных мэтаў.

Момэнт яўнае несправядлівасьці пры правядзеньні зямельнае рэформы ў нашым краі ня можа быць схованы ад простых вачэй селяніна. Калі распарцэлёваныя абшарніцкія двары, ці часьці іх пад самым носам у нашага селяніна пераходзяць у кукі асаднікаў (колёністых) з іншых часьцей Польшчы, калі наш сялянін чуе, што на пастаноўку гаспадаркі гэтых асаднікаў уладамі даюцца асыгнаваньні, дык абурэньне, якое паўстае з пачуцьця крыўды й несправядлівасьці, лёгка знаходзіць сабе куточак у сялянскай душы.

Ёсьць яшчэ няшчасная катэгорыя нашага сялянства, пабываўшага ў бежанстве, ў гэткай бядзе й выгнаньні, якія не запомняцца хіба некалькімі беларускімі пакаленьнямі.

Калі тыя з гэтых небаракаў, якія вытрывалі ўсе мукі бежанства, вярнуліся, нарэшце, на свае сялібы, а найчасьцей проста на попелішчы, дык на ногі трэ' было станавіцца саматугам. Ніякай урадовай падмогі, можна сказаць, што й ня было для іх і гэта вытварала зразумелае нездаволеньне лёсам. Калі й былі некаторыя крэдытныя магчымасьці падмогі з боку ўладаў, дык яны выглядалі настолькі мізэрна, што мала чуваць, каб гэта сялянам-бежанцам станавіцца на ногі памагала.

Неяк ,,какрысе, ўпартаю працаю, народ адбудоўвае свае ўбогія гаспадаркі і рады наступіўшаму супакоеньню.

Страшэнна дае сябе чуць дарагоўля, якая ў вачох народу зьяўляецца абсолютна незразумелай:— Як-жа-ж гэта?—думае сабе наш сялянін, і грошы, як грошы, саўсім моцныя ў Польшчы завяліся і падаткі плаціць, як трэба, прыходзіцца, а вось, што ні прадавай, а трудна на боты зьбіцца!

Эканамічны крызыс дае сябе чуць і вёсцы.

Есьць і хваравітыя ноткі ў настроях нашага сялянства, але гэта як-бы рэзонанс гучных абяцанак тых высокіх агітатараў, якія вечна здольны шмат дакляраваць, рэальнага-ж нічога не зрабіць.

Іншы нечага жадае, а разабрацца толкам так і ня можа, чаго яму трэба. Слухае што дакляруюць, а дакляраваць заўсёды ёсьць майстры і пэўныя народныя сымпатыі, часамі, выклікаць умеюць.

Расхалыханае войнамі й рэволюцыямі, бражэньне мысьляў у народзе саўсім яшчэ не астаялася і зьнікнуць можа, спыніўшыся на момэнце адкрытых конкрэтных рэформаў, якія-б абнялі ўсебакова жыцьцё нашага краю, як нечага палага са ўсімі сваімі асаблівасьцямі.

---

## Палітычны агляд.

У Жэнэве 1 верасьня пачалася пятая сэсія Лігі Народаў, якая зьяўляецца найвялікшым сходам народаў, які быў калі ў сусьветнай гісторыі. Бяруць удзел 110 офіцыяльных прадстаўнікоў ад 54 розных дзяржаваў; лік тэхнічных дарадчыкаў па розных пытаньнях даходзіць да 340 душ. Апрача таго тысячы журналістаў і корэспондэнтаў з розных краёў. Усяго-ж у сувязі з адчыніўшайся сэсіяй Лігі Народаў прыбыло ў Жэнэву больш за 20.000 чужаземцаў, якія занялі ўсе готэлі, ў каторых амаль што ня гвалтам захватваюць свабодныя пакоі. На сходзе будуць прысутны 17 міністраў заграпічных справаў і 3 прэм'еры — Макдональд, Эрыё і Тэніс. Ужо адзіны гэты факт паказвае, якое вялікае значэньне мае цяперашні сход Лігі Народаў, на парадку дня каторага між іншымі бягучымі справамі ёсьць гэткія сусьветныя проблемы, як рэарганізацыя самай Лігі Народаў, пытаньне аб агульным абязброеньні і ўзаемнай гарантыі бясьпекі дзяржаваў.

Пасьля адкрыцьця сэсіі бэльгійскім міністрам заграпічных справаў Гюмансам, ўраз-жа выбралі старшыню сходу. Выбралі прэзыдэнта швэйцарскай рэспублікі Мотта, каб доказаць сваю ўдзячнасьць за гасьціну ў Швайцарыі. Пасьля выбралі 6 заступнікаў старшыні, ў ліку якіх апынуўся і польскі міністар заграпічных справаў Скржынскі, ды выбралі 6 камісіяў па розных пытаньнях. Радавы Саюз ня мае свайго прадстаўніка дзеля таго, што ня прызнана яму дыплёматычных правоў, чаго дамагаліся бальшавікі. Дзеля гэтага бальшавікі зусім адмовіліся ад учасьця, хаця яны былі запрошаны, ня гледзячы на тое, што С. С. С. Р. ня ёсьць сябром Лігі Народаў, баючыся відаць, каб новага прадстаўніка не спаткаў лёс Вароўскага, забітага ў Лёзаньне на леташняй мірнай конфэрэнцыі. З іншых вялікіх дзяржаваў няма прадстаўніка Нямеччыны, якая таксама, пакуль што, не ўваходзіць яшчэ ў склад Лігі Народаў. А Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі маюць толькі свайго даглядчыка ў асобе свайго пасла ў Швайцарыі.

У працягу колькі дзён трывае ўжо рэволюцыя у Кітаі, якая з кожным днём разрастаецца. Прычыны яе, пакуль што, яшчэ ня ведамы. Ведама толькі, што тыя вакругі, дзе цяпер ідзе барацьба, нядаўна былі разрушаны страшэннай паводкай, якая пазбавіла страхі над галавой больш як 15 мільёнаў жыхароў.

Наагул Кітай пасьля рэволюцыі, скінуўшай монархію, не супакоіўся яшчэ дагэтуль. Пры гэтым трэба ад'значыць тую асаблівасьць кітайскіх паўстанцаў, што там паўстаюць не паасобныя грамадзкія клясы ўсяго вялізнага 400-мільённага насяленьня, а паасобныя провінцыі: то паўночныя проці паўднёвых, то адна провінцыя проці другой. Цяпер вядуць барацьбу з сабой дзьве провінцыі, якія ляжаць побач з Шанхаем. Ідзе запраўдная вайна, дзеля таго, што з кожнага боку ёсьць свае войскі і тэрыторыі, на якіх робіцца мобілізацыя і рэквізыцыя ўсяго патрэбнага для ваенных.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— У **Львове** падчас павароту Пана Прэзыдэнта Рэспублікі з Таргоў да Ваяводзкага Ураду, з мэтай замуціць энтузыястычны настрой, які панаваў у цэлым месьце з прычыны прыезду Прэзыдэнта, — нейкі суб'ект кінуў на Мар'яцкім Пляцы пад аддзел уланаў, што ехаў за карэтаю Прэзыдэнта, малую пэтарду, якая спачатку саўсім не разарвалася, і толькі, кранутая конскімі капытамі, пачала выпушчаць дым. Вінаватцай, які злоўлены, як сьцьвярдзілі навочныя сьведкі, быў нейкі Станіслаў Шрэйгэр. Ваенная экспэртызаю установлена, што пэтарда мела ў сабе мешаніну пораху, так што больш-менш паважных паслядетваў выклікаць не магла.

— Урад падгатаўляе цяпер законапроект аб арганізацыі корпусу пагранічнае варты, які проект у палове кастрычніка будзе ўнесены ў Сойм. Корпус будзе падлягаць Міністэрству Унутраных Справаў.

— Варшаўскі расейскі орган „За Свободу" не бароніць больш свайго ідэйнага павадыра Б. Савінкова, абвясьціўшы яго сваім ворагам.

— У Перамышлі забіты дырэктар украінскае гімназіі Мацьвееў. Забойцы — студэнты, украінскія нацыяналісты.

**За граніцай.**

— Як пішуць венскія газэты лідэр і закладчык камуністычнае партыі ў Аўстрыі Карусь Томан, аднагалосна пастановаю управы камуніст. партыі выключаны са складу сяброў за „цяжкае нарушэньне дысцыпліны і непралетарскую мэтоду дзеяньняў".

— Па распараджэньню Реввоенсовета былышы главковерх Каменев выехаў на заходнія граніцы С. С. Р. Р. дзеля інспэктарскага агляду аддзелаў чырвонае арміі, перакінених для манэбраў у Падольшчыну.

— Політбюро запрапанавала цэнтральнаму камітэту камуністычнае моладзі зрабіць мобілізацыю старшых камсамольцаў дзеля скіраваньня іх у неўраджайныя мясцовасьці. Кожны губ. камітэт павінен мець ня менш, як 20—30 камсамольцаў, гатовых па тэлеграме кіраўнічых партыйных арганізацыяў выехаць у назначаныя месцы.

— Палітычнаю установаю пры камандзеры Украінскіх войск выданы загад аб падрыхтоўцы да прызыву кандыдатаў партыі і камсамольцаў, якія радзіліся ў 1903 годзе, дасрочны прызыў якіх адбудзецца ў кастрычніку 1924 г. з мэтаю падрыхтаваць камуністаў і камсамольцаў да працы сярод беспартыйнае чырвона-армейскае масы.

— Француская газ. „Matin" піша, што ў Шанхайскіх водах знаходзяцца ангельскія, амэрыканскія, францускія і італьянскія ваенныя караблі.

— **Маскоўскі** урад вельмі зацікавіўся падзеямі ў Кітайшчыне.

— З Канстантынопаля паведамляюць аб агульным процісавецкім паўстаньні ў **Грузіі** і **Азэйбэрджане.** Палова грузінскае тэрыторыі перайшла ўжо ў рукі паўстанцаў. З абедзьвюх старон панесены сур'ёзныя страты. У Батуме адбываюцца вулічныя бітвы. Чугуначная і тэлеграфная камунікацыя па Уладыкаўкаскай дарозе перарвана.

— Паліцыя выкрыла ў Гэрдэ, недалека ад Кауба, **на Рэйне** склад зброі, зроблены камуністычнаю групаю тэрорыстаў. Дом, дзе знаходзіцца гэты склад, быў акружаны і ў ім быў зроблены вобыск. Знойдзены набоі, дынаміт, ручныя гранаты, зброя і тэрорыстычныя пляны. Адбылося, ў сувязі з гэтым, каля 20 арыштаў. Сьледзтвам установлена, што склад быў арганізованы камуністычнаю Чэ-Ка, якая працуе па загаду **з Масквы.**

— Камуністычная партыя ў **Югаславіі,** склікала 1. IX. офіцыяльнае сабраньне дзеля абгавору палажэньня югаславянскіх рабочых. Паліцыя некалькіх разоў разганяла камуністаў, арыштаваўшы 4 асобы. Некалькі паліцэйскіх ранена.

— Парыская часопісь „Petit Journal" паведамляе з **Жэнэвы,** што француская і ангельская дэлегацыя апрацоўвае супольную праграму.

— З **Шанхая (Кітайшчына)** паведамляюць, што Шанг-Тсо-Лінг выслаў да пэкінскага ўраду ультыматум, вымагаючы ад ураду спыненьня барацьбы з ваенным губэрнатарам Сіекіянга, ў праціўным выпадку Шанг-Тсо-Лінг дасьць апошняму падмогу.

— На паседжаньні **Лігі Народаў** у Жэнэве ангельскі прэм'ер-міністар Макдональд, закрануўшы ў сваёй прамове дзеяльнасьць Лігі, выказаў шкадаваньне, што праца Лігі Народаў большай часткаю нікому невядома. „Пытаньне прадстаўляецца саўсім інача, — сказаў Макдональд, — калі дапушчаецца якая-небудзь абмылка, як напрыклад датычна Верхняе Сілезіі". Гэтыя словы выклікалі агульнае зьдзіўленьне, а асабліва сярод францускае дэлегацыі.

— Пасьля прамовы Макдональда была зроблена пярэрва паседжаньня на 2 гадзіны, затым слова ўзяў польскі міністар заграніцных справаў Скржынскі, які не зрабіў ніякае ўвагі на словы Макдональда датычна В. Сілезіі. П. Скржынскі выказаў пагляд, што разбраеньне немагчыма без гарантыяў бясьпечнасьці і заўважыў, што неабходны дадатковыя дагаворы, пакуль не надойдзе ўмацаваньне сьвядомасьці міжнародней солідарнасьці, якая мае мэтаю гарантыю міру.

— Забастоўка ленінградзкіх партовых рабочых зьліквідована. Адміністрацыя згадзілася падняць заработную плату, прыняць назад звольненых у пачатку забастоўкі рабочых, а таксама зрабіць захады аб выпушчэньні з вастрогу арыштованых. Ваенная варта ня зьнята.

— Кангрэс **ангельскіх профэсыянальных саюзаў** прыняў гэтак званую „хартыю працы", якая прадбачыць нацыялізацыю зямлі, капальняў, чугунак, адшкадаваньне ў выпадку забастоўкі і пэнсію ўсім, дажыўшым да 60 гадовага веку.

— Нямецкі соц.-дэмакратычны орган „Vorwärts" піша, што справа Савінкова—гэта камэдыя, ўвесь ход якое загадзя абваруновавы паразуменьнем паміж бальшавікамі і Савінковым. Газэта называе Савінкова авантурнікам, бандытам і перабежчыкам.

— На чароднай сэсьі **ангельскага парляманту,** прэм'ер Макдональд чакае сур'ёзнае опозыцыі з боку лібэралаў, якія аканчальна пастанавілі галасаваць проці англа-савецкага дагавору.

— Француская прэса вельмі нэрвова адносіцца да ўсіх вестак з Жэнэвы. Правыя газэты вядуць заўзятую кампанію проці ўсякіх проектаў аб разбраеньні.

— Паводлуг вестак з **Мадрыду,** гішпанскі ўрад з вялікім непакойствам адносіцца да ўгодкаў 13 верасьня, чакаючы ў гэты дзень **рэвалюцыйных выступленьняў.** 13-е верасьня — ўгодкі захапленьня ўлады дыктатарам Прыма-дэ Рывэра.

— „Berl. Tagebl." паведамляе, што 2-IX ў сав. пасольстве ў **Бэрліне** адбыўся банкет у чэсьць мэксыканскага прэзыдэнта гэнэрала Калеса. На банкеце быў Ліцьвінаў, які праездам спыніўся ў Бэрліне. Нямецкі ўрад прадстаўлялі міністры Гамс і Эзэр. Было шмат прадстаўнікоў дыплёматычнага корпусу.

— Цэнтральны камітэт **соцыяльдэмакратычнае нямецкае партыі** выпусьціў адозву, трэбуючы роспуску рэйхстагу і народнага галасаваньня па пытаньню аб ахаронных мытах.

# Агляд прэсы.

**Савінкоў у Расеі**

У апошнія дні аграмадную сэнсацыю выклікала справа Барыса Савінкова, які ў працягу аднаго тыдня вярнуўся ў Расею пад фальшывым пашпартам, там быў арыштованы, засуджаны на кару сьмерці, якая пасьля заменена была на 10 гадоў вастрогу, а пасьля і зусім памілаваны.

І ўсё гэта ў працягу аднаго тыдня! Рэкорд судовай скорасьці!

Дык няма дзіва, што прэса ўсіх напрамкаў, асабліва расейская, сільна зацікавілася дзіўным пераломам у душы нядаўняга контр-рэвалюцыянэра, які сваей палітычнай экспіяцыяй патрапіў так зьмяніць першы строгі прысуд бальшавіцкага трыбуналу.

Кадэцкі орган „Руль", які выходзіць у Бэрліне, піша:

> Савінкоў для савецкае ўлады — гэта запраўдны знайдзены скарб.

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 20 „Грам. Голасу").*

XXII.

**Грымоты.**

Хутка прайшла ночка.

Загарэлася неба і праз хвілю праменьні сонца пагналі летні туман у гушчар лесу, дзе ён згінуў сярод галінаў.

— Добры будзе дзянёк! — глянуўшы на неба, сказаў Міхась.

— Цяпер добра было-б трохі заснуць, — скончыў ён гутарку, ўстаючы з месца.

— Ды чаго там, лажэцеся, а я пайду да хаты, — сказала Ганначка. — А пасьля пад вечар я прыду ды вам есьці прынясу. Дык бывайце здаровеньнія! Глядзеце, не пажанецеся тутака, бо вун Пухавіцкія дзяўчаты з таго боку пазіраюць! — пагразіла яна нам рукой, засьмяўшыся, і хутка схавалася ў гушчары лесу.

— Ня зьбіся з дарогі! — крыкнуў ёй Міхась усьлед.

— Давай, сябра, пасьпімо! — зьвярнуўся Міхась да мяне.

— Яно й можна, — згадзіўся я.

— Дык трэба нам паспаць добра, ды і на мягкім, — сказаў Міхась, падміргіваючы. — Ось, для гэтага давай, сябра, аер ламаць!

Мы дружна прыняліся за працу і не агледзеліся, як наламалі шмат аеру, на якім расьцягнуліся і не пасьпелі агледзецца, як заснулі. Праз сон я чуў, як сонца моцна пякло, але змога брала сваё...

Не памятаю, ці доўга мы спалі, як раптам мяне разбудзіў нейкі ўдар па галаве.

Я расплюшчыў вочы. Што за праява?

Хтось накрыў нас цэлай купай галін.

— Гэй, хто там? — пачуўся голас Міхася. Мусіць і яго таксама разбудзіў удар альховых галін.

Мы выбраліся з-пад галін і зьдзіўленна паглядзелі адзін на аднаго.

Было цёмна. Вецер гудзеў.

— Ось яно што! Шчасьліва абыйшлося! — памахаўшы галавою, сказаў Міхась.

— Глядзі, сябра, гэта вецер зваліў на нас тую вялікую вольху, пад якой мы варылі рыбу. Добра, што зачапіла толькі галінамі, мусі моцна мы спалі, калі ня чулі, як паднялася бура, — скончыў ён, азіраючыся наўкола.

Неба было пакрыта цёмнымі хмарамі, вецер хістаў і рваў галіны, лісьцьцё з дрэваў, высока паднімаў іх угару і кідаў у хвалі вады, якія гарамі ішлі адна за аднэй і з пенаю кідаліся на бераг...

Гнуўся да самай вады зялёны сітняг...

Ось, сьціх вецер на момэнт...

Як нажом разанула маланка хмары ў небе і моцны ўдар пяруна пракаціўся, патрасаючы, здаецца, ўсю зямлю.

Закапалі вялікія кроплі дажджу, спачатку рэдка зашлёпалі па вадзе і сьцёблах дрэваў, а пасьля раптам быццам хтось адкрыў якуюсь заслону, перашкаджаўшую дажджу, і той лінуў як з вядра...

— Хавайся! — пасьпеў мне крыкнуць Міхась, як зігнула маланка і грукнуў такі ўдар пяруна, што аж у вушох зашумела...

Гуляла бура! Стагнаў лес пад напорам ветру, ламаліся галіны, сыпаліся градам лісты. Ня было зьлітаваньня! Усё мацнеюць і мацнеюць удары пяруна, зіхацяць маланкі адна за аднэй...

Равуць хвалі, зьбіваюць пену...

Здаецца, хочуць яны наляцець, затапіць зялёны лес, які быццам бровы насунуў і грозна гудзіць ім у адказ.

А над імі бушуе чорнае неба, хлешча дождж...

Гуляй мацней бура!...

Пануй над небам, лесам і вадой!...

Хай, хто трус хаваецца хутчэй! Хто моцны — выходзь!

Чуецца ў вас ветру вызаў...

— Гэй, сябры! Сюды на дапамогу! Хай маланкі зьняюць, грукоча пярун! Хай сьмерць наўкола пануе! Ня страшна нам! Мы вызаў прынялі! — гудзіць яму, ў вочы гледзячы, лес...

Ідзе бойка...

Плача здрасаваны, заліты вадою, сітняг...

— Трымайся, сябра! — лес яму гудзіць...

Цяпер яна можа, дзякуючы свайму мастацтву пропаганды, гэтак павясьці справу, што быццам яна пазбавілася свайго галоўнага ворага, значыцца—ўзмацавалася.

А ўзапраўды дык Савінкоў ролю сваю згуляў ужо даўно. Як высахлі чужыя падмогі, утраціўшы ўсялякі моральны аўторытэт, жыў ён жыцьцём, якое ня мела ўжо палітычнага сэнсу. Горды скандалісты аднак ня мог ніяк з гэтым згадзіцца. Аставалася яму ўжо пакінуць сцэну, але ён лепш хацеў паказацца на савецкай сцэне... Ен для іх карысны і дзеля таго можа быць сярод іх бясьпечны. Ці гэта абрахунак правільны—гэта ўжо іншае пытаньне. Бальшавікі выкарыстаюць яго дзеля шуму яголых рэвэляцыяў, а пасьля для іх зусім непатрэбны. Уцякач з аднаго лагеру добры тады, калі перамяняе лагер, але не тады, калі сядзіць надта доўга і будзіцца думка, што ён ізноў уцячэ.

Гэтак сама несымпатычна адклікаецца аб аўторы „Коня блёднаго" і савецкая прэса.

Радэк у газ. „Правда" піша аб прызнаньнях Савінкова:

> ...Значэньне іх выказвае ролю расейскае эміграцыі, якая была забаўкай у руках сусьветнага імпэрыялізму. Залітая крывёй расейскіх сялян і рабочых, запэцкана чужаземным балотам расейская контррэвалюцыя станула перад судом расейскіх рабочых і сялян...

а аб ім самым:

> Савінкоў будзіць агіду і літасьць нават у тых, хто паверыў у шчырасьць яго жалю. Суд меў перад сабой сьмярдзючага мерцьвяка расейскае контррэвалюцыі.

# Жыцьцё правінцыі.

Нам пішуць з Ашмяншчыны:

Маёнтак Залесьсе Ашмянскага павету, Беніцкай воласьці, лічыць каля **трох з палавінай тысяч дзесяцін зямлі.** Але гэты маёнтак мусіць у сучасны момэнт урэгуляваць сэрвітутнае пытаньне паміж 13 вёскамі, наогул **2645** дзесяцін маёнткавай зямлі мусіць адайсьці сялянам. Сэрвітутная камісія, якая адбылася з прадстаўнікамі ад вёсак 11 ліпня 1924 г. ў Вільні, вынясла пастанову і павыдавала вёскам копіі пастановаў, што кожная вёска мае тыя сэрвітуты, якімі да сучаснага момэнту карысталіся з указаньнем якімі урочышчамі кожная вёска мае права карыстаць.

Сяляне ўсе з такой пастановай згодны і ўсюды разумеюць справядлівы падзел і эразуменьне ўладамі іхняга інтарэсу. Але заўседы, калі адзін задаволены з праўды, дык другі лічыць сябе пакрыўджаным, таксама і маёнтак Залесьсе. Адміністратар гэтага маёнтку п. Садоўскі, відзячы, што з вялізарнага маёнтку, астаецца толькі трэцяя часьць, задумаў якколькве абдурыць сялян, і гэтым выкарыстаць маёнткавыя інтарэсы, дзеля гэтага ён адным вёскам прапануе (каб толькі яны былі згодны з ім), што дасьць болей, але ў другім месцы, а другім прапануе даць той сэрвітут, які прыналежыць да другой вёскі, а той вёсцы яшчэ які іншы і так далей, і як хто згодзіцца, дык хутчэй робіць усё ў воласьці фармальна. Наш селянін, ведама цёмны чалавек, ня ведае, што рабіць, але добра разумее, што яго хочуць абайсьці і ўсе панскія прапановы адкідае.

Вось пан, бачачы, што гэтым селяніна не абдуеш, станоўча гавора, што як сяляне незгодны з ім, то ён усё роўна прымусіць іх да гэтага і страшыць прымусовай сэрвітутнай камісіяй, але сяляне стаяць на сваім, кажучы, што калі праўная сэрвітутная камісія добра рассудзіла сэрвітутнае пытаньне, то пагрозаў панскіх яны не баяцца. І вось у гэты момэнт сяляне зьвяртаюцца да пана Рэдактара і просяць у сваёй паважанай газэце „Грамадзкі Голас" разьясьніць гэтае пытаньне, як далей рабіць з гэтаю справаю, ведаючы, што „Грамадзкі Голас" заўсёды ідзе на спатканьне сялянам.

К—т.

**Ад Рэдакцыі:** Калі сяляне прызнаюць для сябе нявыгаднаю прапазыцыю памешчыка, дык могуць ня прыняць яе і трабаваць разрашэньня гэтага пытаньня ў звычайным парадку прымусовае ліквідацыі сэрвітуту. Да прыняцьця нявыгадных варункаў абшарнік сялян прымусіць ня можа.

### Бандыцкі напад.

1 гэтага верасьня недалёка ад м. *Мір, Несьвіскага пав.* адбыўся бандыцкі напад на гаспадара Аляксандра Бэдзыка, ў якога аграблены *30 злотых, выручаных за праданую сьвіньню.*

Паведамленая аб нападзе паліцыя зараз-жа пачала пагоню бандытаў і недалёка ад месца нападу арыштавала двух бандытаў: жыхара м. Міра Русецкага, які нядаўна выпушчаны быў з вастрогу, вядомага ў ваколіцы злодзея, а таксама жыхара вёскі Асіпоўшчыны, Гарадзейскае воласьці Недзьведзкага.

Абодва арыштованыя прызналіся да нападу на Бэдзыка. У арыштованых знойдзены даволі вялікія грошы.

### Сёлетні ураджай.

*(Ад уласнага корэспондэнта).*

У павеце *Ашмянскім* і *Вялейскім,* сёлета дрэнны ўраджай на жыта. Капа дала максымум 4 пуды і гэта лічыцца ўжо добра, бо ў некаторых вол. гэтых паветаў капа дала толькі 3 пуды, а то і зусім жыта павымакала месцамі, што нават *і пасеянае сабраць немагчыма, апрача таго зжатае жыта ў некаторых месцах прапала на полі дзеля таго, што дажджы не далі яму высахнуць. Бульба вельмі дрэнная ўрадзіла, пад каранём 5—6 бульбінак і то карэлых, дзякуючы дажджом, а ў нізкіх месцах зусім папрападала. Аўсы і ячмені досьць добрыя. Што тычыцца сена, то справа дрэнная. У кожнага селяніна палавіна прапала скошанага, а то і зусім недакошанае засталося, бо нізкія лугі так пазалівані вадой, што ніякай магчымасьці ня было пакасіць і павыцягваць траву на вышэйшае месца. Магчыма нават, што сена будзе вельмі дарагое, калі нават цяпер у некаторых месцах пуд сена каштуе паўтара злотага. Ураджай на гарох і грачыху сярэдні.

**Язэп К.**

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

# У С.С.Р.Р.

### З грошай Камінтэрну.

З Тыфлісу уцёк за граніцу скарбнік грузінскае камуністычнае партыі Каўтарадзе, які да 1924 г. займаў пасаду сябра колегії закаўкаскае чэ-кі. Каўтарадзэ захапіў з сабою больш як 200.000 рублёў заграніччаю валютаю; грошы гэтыя былі пераведзены з цэнтру дзеля перадачы цэнтральнаму камітэту пэрсідзкае партыі

### Арышты меншавікоў.

„Соц. Вѣстник" паведамляе, што па местах Украіны пракацела новая хваля арыштаў „па падазрэньню ў меншавізьме". Арыштовалі ў Кіеве, Харкаве, Адэсе, Крамянчугу, арыштовалі ў Данецкім басэйне і г. д. ГПУ, як піша журнал, ужо ня ведае, каго яму арыштоўваць, але арышты йдуць і носяць масавы характар. У гэткім месяце, як Крамянчуг, саўсім апусьцеўшым за апошнія гады, арыштована да 70 чалавек.

### Неўраджай у Арменії.

У камісію Рыкава паступіла заява рады народных камісараў Армянскае рэспублікі аб залічэньні Арменії ў лік неўраджайных мясцовасьцяў. Ад сухменю загінулі ²/₃ пасеваў. У Эчміадзінскім вокрузе 80 % насяленьня трэбуе ўрадовае харчавое падмогі з прычыны поўнае адсутнасьці хлебных запасаў.

### Смаленскі НЭП.

У Смаленску адбыўся працэс адказных работнікаў губэрнскіх гаспадарчых і крэдытных установаў, абвінавачаных у буйных злаўжываньцях, у злажэньні некарысных дагавораў з нэпманамі і ў хабарніцтве. Галоўны абвінавачваны — намесьнік прэзэса совнархозу, уцёк за граніцу. Паводлуг даных судовага сьледзтва і расьсьледаваньня рабочае інспэкцыі, шкода скарбу ад опэрацыяў абвінавачаных толькі за 1923 г. дасягае 2380000 залатых рублёў. 18 абвінавачаных, з якіх 11 камуністаў, засуджаны на вастрог ад 5 да 10 гадоў.

---

Грукоча пярун, трашчаць дубы, бярозы, сосны, вольхі...

Хутка пройдзе бура...

Зноў узойдзе сонца і лячыць тады будзе свае раны сітняг і стары лес.

Ось слабей грукоча пярун, сыціх дождж. Вецер пагнаў далей цёмныя, агнём багатыя, хмары. Ось, бліснулі праменьні, зноў засьмяялася сонца, іграючы тысячамі агнёў у кроплях дажджу на лістох галін.

Сьціхла бура.

Мы, змокшыя да касьцей, пайшлі да хаты, цераз, пацяху ўжо гудзеўшы, лес...

Сьмяялася сонца. Птушкі наўкола зноў весела сьпявалі...

### XXIII.

### Альбіна.

Чаму я ўспомніў аб ёй у гэты момэнт.

Я добра і сам ня ведаю, але ось успомніў і жудасны жаль здавіў грудзі і сэрца.

Гэта было даўно...

Тады сонца так ярка сьвяціла, весела птушкі сьпявалі аб нечым цудоўным. Лес гаманіў. Здавалася — усё створана для твайго жыцьця.

Ярка сонца сьвяціла, як мора жыта выглядала і хвалі чыстага золата хадзілі па ім, а сярод іх ішла Альбіна...

Любая дзеўчынка мая, дзе ты цяпер?

Сэрца біцца перастала. Я глядзеў на яе, як на багіню і тыя краскі васількоў, што яна выпусьціла з рук, я падняў, схаваў у сябе на грудзёх...

А вочы, вочы, якім сьвяціліся яны агнём!..

Куды звалі яны?

Ад вачэй я адарвацца ня мог...

А ўся яна была падобна да тае багіні харства, якіх я бачыў у музэі...

Дык ось яна дзеўчына нашых лясоў, нашых палёў...

Штодзень хадзіў я ў поле.

Вочы мае шукалі сярод хваляў жыта галоўкі са стужкай чырвонай у касе...

Чуў я, як моцна пакахаў я яе ўсім сэрцам сваім.

Тады сонца ярка сьвяціла.

А ночкай, як цяпер, я бачу яе перад сабой. Закрыла пуком красак пачырванеўшы твар, калі прасіў яе:

— Альбіна, прыйдзеш на рэчку ўночы?

Доўга моўчкі стаяла, а пасьля глянула на мяне і ціха сказала: — Добра!

Дзіўная ночка была. Месяц прыгожа сьвяціў, задрамаў у вадзе сітняг, аб чымсь шаптаўся лес з вадою...

Я чакаў яе...

Але ось і яна...

— Альбіна, ты?

— Я! — ціха сказала і сьмела да мяне падайшла.

Мы сядзелі на камені шырокім, над вадою і чулі, як хвалі беглі, як лес казку казаў, гадалі на зоркі... Я вочкі яе цалаваў...

Яна была мая. Я не аддам яе нікому, ні людзям, ні небу, ні лесу; адзін Бог, і то сілком можа адабраць яе ад мяне!

Сьвяціў нам месячык з высокага неба, сьмяяліся нам зоркі...

Русалкі з вады краскамі кідалі, песьні пеялі і казку казаў нам сітняг.

Так было ночкай.

Яна была мая!...

Дзеўчынка, любая мая, дзе ты цяпер? ці гарыш у вечным агні, ці гуляеш у Божым раі?...

Я ведаю, тутака сярод нас яе на зямлі няма. Яе адабралі русалкі ад мяне...

Не, не, далей успамінаць я не магу...

Альбіна! Кветка мілая мая!

Ці чакаеш мяне Ты, там у сябе?...

Мы ішлі далей.

### XXIV.

### Сустрэліся.

Прадзіраліся праз лес цяпер было горай, як раней, бо намокшыя галіны кожны раз крапілі нас сьцюдзёнымі кроплямі.

— Ось табе і другі дождж! — весела загаманіў Міхась. — Толькі тая розьніца, што ня з хмараў, а з галін палівае...

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

